© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1204) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 25 САКАВІКА 1979 г. ЦАНА 60 гр.


## З рэпарцёрскіх запісак

Раённы суд у Саколцы наладзіў разгляд судовай справы на прадпрыемстве па вытворчасці прылад і абсталявання для харчовай прамысловасці. Каратка кажучы, суд завітаў у сакольскі „Спомаш". У рытуальных уборах, значыць, у тогах, з поўнай павагай размясціўся гэты суд у завадской сталовай, якая адначасова з'яўляецца тут і святліцай. Зала прасторная, бітком набітая людзьмі — рабочымі сакольскага „Спомашу", якія прыйшлі паглядзець і паслухаць, як будуць судзіць іх сяброў па працы.

*

Першы перад судом стаіць (прозвішча тут не найважнейшае) механік-слёсар. Зарабляе амаль 5 тысяч злотых у

## ПЕРАСУНУЛІ САКОЛКУ

месяц. Жанаты. Жонка таксама працуе на гэтым прадпрыемстве. Скажам, завуць яго Е. Фарбач.

Пракурор абвінавачвае яго ў тым, што 17 ліпеня 1978 года ўкраў з прадпрыемства 5 літраў фарбы вартасцю ў 1160 зл.

У зале, сярод прысутных, адчуваецца нейкае здзіўленне: за што тут судзіць? За гэтыя пяць літраў фарбы?

Менавіта, за гэта! Занадта ж прывыклі мы да таго, што грамадскае — значыць казённае, дык можна браць, каб толькі не злавілі!

Суддзя папярэджвае ўсіх прысутных, што хай сабе не думаюць аб нейкім ільготным падыходзе да справы, бо суд толькі часова змяніў месца сваёй працы, але не змяніў сваёй ролі і характару.

*

Абвінавачаны добрасумленна прызнаецца да пакражы. Кажа, што патрабаваў фарбы, каб памаляваць сабе матацыкл, а такой добрай, якая ёсць на прадпрыемстве, нідзе не мог купіць. Дык наліў сабе пяцілітровую банку гэтай аранжавай фарбы і схаваў у кузаве трактарнага прычэпа, якім вывозілі мяшалкі для бетона. Вартаўнікі аднак знайшлі гэтую няшчасную фарбу і цяпер трэба сядзець перад судом ды вачыма ад сораму свяціць перад калегамі па працы, перад сваім начальствам. А кожны, хто яго сустрэне, будзе паказваць пальцам: *глядзі, гэта той, фарбач...*

— Я шкадую свайго чыну, — гаворыць цяпер. І яшчэ просіць, каб пералічыць вартасць фарбы, бо кажа, што краў ён краёвую, якая шмат таннейшая ад імпартнай. Пракурор згаджаецца на гэта і суддзя пасля абмену меркаванняў аб'яўляе рашэнне аб спыненні судовага разгляду гэтай справы дзеля па-

(Працяг на стар. 5)

## ВОБРАЗЫ З РОДНАГА КРАЮ

Здымаў я многа ў Літве, на Паволжы, але перш за ўсё прыцягвае мяне наша Беларусь, а ў ёй — маё любімае Палессе. Край кантрастаў. Тут побач з навейшымі карпусамі Салігорскага камбіната па здабычы і перапрацоўцы калійных (патасовых) солей можна трапіць у заціпшную вёсачку, дзе жанчыны паколішняму прадуць лён, снуюць, ткуць барвовыя дываны. У Прыпяцкім запаведніку прыроды, а ён займае звыш 60 тысяч гектараў, нават за некалькі дзён не вылезеш з топельнай дрыгвы. А тут жа непадалёку, на меліяраваных абшарах прасціраюцца неабсяжныя сенажаці з сакавітай травою ў рост чалавека. І ў гэтым праўдзівым прыволлі я шныраю, абвешаны фотаапаратамі, і лаўлю аб'ектывам такія месцы і моманты, дзе прырода з найбольшай лаканічнасцю раскрывае сябе і чалавека. А другі аб'ект маіх зацікаўленняў — гэта ўнутраны свет чалавека. У партрэтных здымках я імкнуся выявіць душэўны стан, думкі і перажыванні таго, каго фатаграфую.

У тым, што ўсё гэта ўдаецца **Яўгену Казюлю**, відаць было на выстаўцы яго фатаграмаў, што арганізавала Беластоцкае фатаграфічнае таварыства на пераломе



*Яўген Казюля ў капальні сільвініту каля Салігорска.*

зацікаўленне ў СССР, усё часцей эксплуатуюцца ў іншых краінах, таксама і ў Польшчы на міжнародных выстаўках „Homo-69", „Малыя фарматы" і іншых. А тыя з іх, што ўвайшлі ў спецыяльную фотавыстаўку аб Савецкай Беларусі, паказваліся ў 12 краінах свету, нават на Цэйлоне і ў Інданезіі.

— Што ж, урэшце я адважыўся поўнасцю прысвяціць сябе працы з фотаапаратам. Чатыры гады таму назад я перайшоў на работу фотарэпарцёра ў беларускі тыднёвік „Голас Радзімы". Мне пашанцавала, бо і наш шэф В. Мацкевіч і іншыя працаўнікі рэдакцыі аказаліся любіцелямі і дасканалымі знаўцамі фатаграфіі. Яны і заахвочвалі мяне да творчых пошукаў і стваралі для гэтага спрыяльныя ўмовы. Тады іменна я і адкрыў для сябе розныя чароўныя куточкі роднай Беларусі. У мінулым годзе я перайшоў працаваць фотакарэспандэнтам ТАСС і БелТА на Беларусі. Гэта яшчэ болей расшырыла мае магчымасці пошукаў. Раблю каляровыя і чорна-белыя здымкі. Але якраз больш люблю гэтыя апошнія і лічу, што мастацкія магчымасці чорна-белага фота аграмадныя і яшчэ далёка не цалкам вычарпаны фатографамі.

лютага і сакавіка бягучага года ў Клубе міжнароднай прэсы і кнігі ў Беластоку. А цікавы быў яго, цяперашняга фотакарэспандэнта ТАСС і БелТА, шлях да фатаграфічнага мастацтва. Сын інжынера-будаўніка, што быў родам з Віцебшчыны, у першыя пяцігодкі ўзводзіў аб'екты ў розных мясцовасцях СССР і ў цяжкім 1942 годзе загінуў у абароне Ленінграда, ён таксама здабыў прафесію інжынера ў Беларускім політэхнічным інстытуце ў 1957 годзе, ва ўзросце ўсяго 21 года. Васемнаццаць год працаваў ён у розных праектных бюро і інстытутах, між іншым, прымаў удзел у праектаванні ўнутранага афармлення мінскага магазіна „Паўлінка" з вырабамі беларускага народнага мастацтва і многіх другіх аб'ектаў. Але з маленства захапляўся фатаграфаваннем. З бегам часу гэтая цяга развівалася і ўмацоўвалася. Яго працы трапляюць на выстаўкі фотаклуба „Мінск", рэспубліканскія фотавыстаўкі, вандруюць па іншых рэспубліках Краіны Саветаў, паяўляюцца ў газетах, часопісах і кніжных выданнях. Выклікаюць яны ўсё большае

На выстаўцы, якая, дарэчы, з Беластока павандравала ў іншыя гарады нашай краіны, уражвае якраз глыбокі змест фатаграмаў. У „Беларускім краявідзе" адлюстравана маляўнічая беларуская прастора, сатканая з усхваляванага збожжа і малажавых пералескаў, з узорамі ціхіх сялібаў у гус-

(Працяг на стар. 4)



## КАБ шчаслівымі раслі

1979 год аб'яўлены Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Міжнародным годам дзіцяці.

Што ж прымусіла такую важную міжнародную арганізацыю, як ААН, заняцца справамі дзяцей?

Праз кожныя 30 секунд на свеце памірае з голаду дзіця ва ўзросце да пяці год. За апошнія дзесяць год у Паўднёвай Амерыцы памерла 7,5 мільёнаў дзяцей толькі таму, што не было лекарскай дапамогі.

На свеце жыве паўтара мільярда дзяцей ва ўзросце да пятнаццаці год, дзве трэція з гэтага ліку — у слабаразвітых краінах. Каля паўмільярда дзяцей застаецца ва ўмовах, якія можна назваць вельмі дрэннымі. 200 мільёнаў дзяцей галадае. 130 мільёнаў дзяцей не можа вучыцца.



*Хай заўжды будзе сонца!..*

У Народнай Польшчы, згодна з прынцыпам сацыялістычнага ладу, усім дзецям забяспечаны добрыя ўмовы жыцця, вучобы і выхавання, медыцынскай дапамогі, і ўсё, што патрэбна для здаровага, шчаслівага дзяцінства. Але сёлета, у Міжнародны год дзіцяці, кожны з нас павінен падумаць, памеркаваць, што яшчэ можа зрабіць, каб нашым малышам было яшчэ лепш, каб здаравейшымі раслі, каб выраслі разумнымі і фізічна спраўнымі.

Ці ж трэба аж дзяржаўнай пастановы, каб арганізаваць ва ўсіх школах, дзе існуе патрэба, абеды ці хоць бы другое снеданне з гарачай кавай ці малаком? Ці ж сапраўды мы не можам самі дадумацца і арганізаваць у сваім раёне горада ці мястэчка міні-прадшколлі, каб бацькі маглі хоць на гадзінку выйсці з дому, будучы спакойнымі за лёс сваіх дзяцей? Ці ж не ў нашых сілах дапамагчы давозіць дзяцей у аддаленыя часта школы? Ці паглядзелі мы, ці ўсюды для дзяцей ёсць на падворку месца для гульняў і забавы? Чаму праектанты нашых гарадскіх раёнаў забыліся пакінуць сярод высачэзных будынін хоць бы мінімальнае месца на пляцоўкі для гульняў без асфальту, дзе можна было б проста пабегаць па мяккай траве, на якой не было б таблічак з надпісам: „Не таптаць траву!"?

Многія прадпрыемствы і ўстановы ўжо прынялі на сябе пэўныя абавязацельствы ў сувязі з годам дзіцяці. Вядома, напрыклад, што ў гэтым годзе адрамантаваны будуць дзіцячыя дамы ў Белавежы, Красным і Супраслі, пашырана будзе дзіцячая ўстанова ў Бацілках. У Аўгустове каля Бельска, у будынку былой школы, арганізавана будзе школа-інтэрнат для дзяцей са спозненым развіццём.

У гэтым годзе ў нашым ваяводстве, пабудавана будзе пяць новых ясляў, сем прадшколляў, адзінаццаць святліц, чатыры прадшкольныя пункты, 25 пляцовак для гульняў. Прадшколле ў Бельску ўжо аддадзена ў карыстанне, прычым, у значнай меры, пры грамадскай дапамозе.

(Працяг на стар. 2)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

# КАБ шчаслівымі раслі

Падарункам для дзяцей Беластока павінен быць аддадзены ў гэтым годзе каток са штучным лёдам, які быў бы даступны для дзяцей круглы год. Зроблена будзе ўсё, што толькі дасца, каб у гэтым жа годзе дзеці атрымалі новы будынак Беластоцкага тэатра лялек.

Медыцынская служба, апрача правядзення поўнага, паглыбленага балансу здароўя кожнага дзіцяці, асабліва зверне ўвагу на дзяцей з пэўнымі захворваннямі. Гэтым зоймуцца спецыялістычныя парадні здароўя дзяцей.

Многія ўстановы, у гонар Міжнароднага года дзіцяці, вырашылі закласці для дзяцей з дзіцячых дамоў ашчадныя кніжкі на кватэру, яны часта запрашаюць дзяцей-сірот з дзіцячых дамоў удзельнічаць у летніх лагерах адпачынку і г.д.

Ёсць у нашым грамадстве яшчэ і іншыя, значна больш складаныя справы, хоць датычаць яны можа нязначнай часткі дзяцей. Гэта лёсы дзяцей з асяроддзя алкаголікаў. Ці не здаралася нам праходзіць спакойна каля фактаў дрэнных адносін бацькоў да дзяцей? Такіх бацькоў, якія сеюць дэмаралізацыю, трэба пазбаўляць права апекі над дзецьмі. Не аднаму дзіцяці з сям'і алкаголікаў можа быць значна лепш у чужой сям'і, чым у сваёй роднай. І ёсць ужо нямала людзей з вялікім сэрцам, якія выхоўваюць чужых дзяцей, дзеляцца з імі ўсім, што самі маюць, стараюцца ўліць у маленькія разгубленыя цельцы сваю здаровую маральнасць, сваё бачанне свету, свае погляды.

На лёсы гэтых дзяцей мы звяртаем асаблівую ўвагу людзей. Кожнае дзіця мае права на бацькоўскую любоў.

Сёлета наш лозунг адзначэння Міжнароднага года дзіцяці такі:

**Уласнаму дзіцяці — любоў.**
**Кожнаму дзіцяці — сардэчнасць.**
**Дзецям усяго свету — мір.**

Памятайце, што ўсе дзеці — нашыя.

**Яніна Чэрнякевіч**

# ШТО НОВАГА?

## НАРОДАНАСЕЛЬНІЦТВА ЗЯМЛІ

Колькасць насельніцтва зямнога шара к канцу гэтага стагоддзя складзе 6,2 мільярда чалавек, гэта значыць павялічыцца больш чым на 2 мільярды. Чакаецца, што да сярэдзіны XXI стагоддзя на Зямлі будуць жыць 11,5 мільярда чалавек — амаль у тры разы больш, чым цяпер. Гэтыя даныя абнародаваны на пасяджэнні камісіі ААН па народанасельніцтву.

У прадстаўленым камісіі дакладзе гаворыцца аб тым, што за апошнія паўтара дзесяцігоддзя на Зямлі адбылося некалькі важных дэмаграфічных змяненняў, якія прымусілі экспертаў удакладніць свае прагнозы на астатнюю частку нашага стагоддзя. На думку экспертаў ААН, перыяд найбольш хуткага росту насельніцтва ўжо прайшоў, цяпер тэмпы яго няўхільна зніжаюцца, і няма ніякіх прыкмет, што такая тэндэнцыя зменіцца ў бліжэйшым будучым. У развітых краінах сур'ёзнае зніжэнне нараджальнасці пачалося ўжо ў канцы 50-х гадоў. У ЗША цяпер нараджальнасць зменшылася да самай нізкай адзнакі за ўсю гісторыю гэтай краіны.

З сярэдзіны 60-х гадоў нараджальнасць пачала зніжацца ў большасці краін, якія сталі на шлях развіцця. Гэта тэндэнцыя назіраецца цяпер і ў найбольш шматнаселеных краінах, у тым ліку Кітаі і Індыі. Паводле апошніх ацэнак, у Кітаі цяпер пражывае 950 мільёнаў чалавек, а ў Індыі — 630 мільёнаў.

Небывалае раней зніжэнне нараджальнасці ў развітых краінах выклікае заклапочанасць урадаў наконт недастатковага ўзнаўлення працоўных рэсурсаў і ў сувязі з агульным „старэннем“ насельніцтва.

Статыстычныя даныя, сабраныя ААН з усяго свету паказваюць, што ў „сярэдняй сучаснай сям'і“ цяпер менш двух дзяцей. Як правіла, жанчыны выходзяць замуж пазней і першае дзіця з'яўляецца ў больш сталым узросце. Значная колькасць жанчын у развітых краінах наогул не абзаводзіцца дзецьмі.

Практычна ва ўсіх раёнах свету жанчыны жывуць даўжэй, чым мужчыны. У найбольш развітых краінах гэта розніца складае ў сярэднім 6,5 года. Працягласць жыцця жанчыны складае 70-78 гадоў, мужчын — 64-72 гады.



**Помнікі зямлі беларускай.** *Помнік ахвярам лагера смерці „Трасцянец“, дзе фашысцкія вылюдкі знішчылі звыш 200 тысяч савецкіх грамадзян.*

# БЕЛАРУСІЯНА

## „Я з вогненнай вёскі"

Гэтая дакументальная аповесць пра зверствы гітлераўскіх галаварэзаў на Беларусі ў час акупацыі заваявала ўжо сусветнае прызнанне. Даступна яна таксама і польскаму чытачу.

Абшырную рэцэнзію гэтай кніжкі знаходзім у 28 **„Бюлетэні Галоўнай камісіі па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы“**. „Бюлетэнь“ гэты як сур'ёзны навуковы часопіс разыходзіцца ў розныя краіны Еўропы і Амерыкі. Асабліва за яго зместам сочаць у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі, дзе, як вядома, разгарнуліся цяпер заўзятыя спрэчкі вакол пытання аб **непратэрмінаванні** ваенных злачынстваў і злачынстваў супраць чалавецтва. Правыя, хадэцкія групіроўкі, якія складаюць вельмі ўплывовую апазіцыю ў бонскім парламенце, яўна выступаюць у абарону прынцыпу даўнасці, за зраўнанне ваенных злачынстваў з усімі іншымі злачынствамі крымінальнага характару. Адзін з правадыроў гэтай апазіцыі, **Франц Штраус,** адкрыта заяўляе, што вялікаму нямецкаму народу, які эканамічным пасляваенным развіццём апярэдзіў усе іншыя заходнееўрапейскія краіны, хай ніхто не смее прыпамінаць яго ваенных злачынстваў, нават лагераў смерці тыпу Асвенцім! Патрабуе ён усеагульнай амністыі для ўсіх гітлераўцаў.

Тым болей неабходна прыпамінаць свету, чым для нас была гітлераўская акупацыя. Робяць гэта аўтары рэцэнзіі, магістр **Вальдэмар Манкевіч** і доктар **Юзэф Кавальчык.** Абодва з Беластока, абодва заслужаныя дзеячы ў галіне даследавання гітлераўскіх злачынстваў на Беласточчыне.

Кніжкай **Аляксандра Адамовіча, Янкі Брыля** і **Уладзіміра Калесніка** *„Я з вогненнай вёскі“* зацікавіліся яны зараз жа пасля яе першага беларускага выдання і тады напісалі гэтую рэцэнзію. Хіба не спадзяваліся, што хутчэй, чым іх рэцэнзія, паявіцца польскае выданне гэтай дакументальнай аповесці. Найперш прыводзяць яны кароткія звесткі аб аўтарах кніжкі, а затым гавораць пра яе змест. Цытуюць такія факты: сярод 9200 беларускіх вёсак, якія падвяргаліся пацыфікацыі з боку гітлераўскіх карнікаў, аж 4887 вёскі былі знішчаны датла. У 627 вёсках гітлераўцы перабілі ўсіх жыхароў. Правялі фашысты на тэрыторыі Беларусі звыш 100 буйных карных экспедыцый, пасля якіх аставалася спаленая зямля, тырчэлі коміны недагарэўшых хат і валяліся трупы непахаваных ахвяр: дарослых і дзяцей, мужчын і жанчын.

Кніжка, адзначаюць аўтары рэцэнзіі, прыносіць успаміны і паказанні звыш 300 цудам уцалеўшых жыхароў са 147 спаленых і расстраляных вёсак, а кожны ўспамін жывога сведка з'яўляецца **актам абвінавачання.**

Адзіным ратункам для беларускага народа, каб перажыць, каб супрацьпаставіцца ворагу, была барацьба. І таму ў партызанскіх атрадах і ў антыфашысцкім руху супраціўлення ворагу ўдзельнічала на Беларусі звыш 440 тысяч чалавек.

Аўтары рэцэнзіі таксама адзначаюць, што ў састаўленні гэтай дакументальнай аповесці аб пакутніцтве і барацьбе беларускага народа яе складальнікі атрымалі шматзначную дапамогу з боку Галоўнай камісіі па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы.

**(вр)**




**Гарадоцкі юбілей ● Не рабіць, а жыць? ● На сцэну — рэгіянальную творчасць! ● Нешта небывалае ● Дзядзька Квас апладзіруе Гайдуку ● Акардэаніст хвалюецца ● Літаратурная старонка ● Весткі з Бельска, Міхалова, Заблудава, Гайнаўкі, Нараўкі, Чаромхі, Дубіч Царкоўных, Шудзялава, Навакорніна, Орлі, Відава, Крывяціч ● З беларускага гумару ● Борг хаваецца ад людзей ● Песня „Białe róże".**

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 24 III** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Biol. 9.00 Dla kl. VIII Nauka o czł. 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Upr. rośl. 14.15 Pr. dnia. 14.20 Radzimy rolnikom. 14.30 Obiektyw. 14.50 Dziennik. 15.00 U sąsiadów — pr. dla dzieci. 15.50 Życiorysy współczesne. 16.20 Latarnia czarnoksięska. — 16.50 Taksówka nr 3886 — fr. dramat obycz. 18.10 Szanujmy wspomnienia — pr. rozr. 19.00 Przygody Bolka i Lolka. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Życie na gorąco — odc. IV ser. 21.55 Muzyka małego ekranu. 22.30 Dziennik. 22.45 Mała antologia kabaretu: „13 Rzędów" i „Ali Baba".

**Niedziela 25 III** — 6.25 TTR. Hod. zwierz. 6.55 Upr. rośl. 7.25 Nasze spotk. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Sport. 9.00 Teleranek TDC. 10.20 Antena. 10.45 Kiedy las był ich domem — hiszp. film przyr. 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Poranek symf. 13.25—23.00 Tylko w niedzielę. — 17.40 Sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Rodzina Połanieckich — odc. IV ser. 21.40 Sport.

**Poniedziałek 26 III** — 12.45 TTR. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT — mat. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Zwierzyniec. 17.15 Rytm czasu. 17.35 Utrapienie — film czech. 19.00 Wiercik. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV na świecie. Carlo Goldoni: Sługa dwóch panów — spektakl TV wł. 22.25 Dziennik. 22.40 Gdy dwóch robi to samo — pr. rozr.

**Wtorek 27 III** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. 6.30 Mech. rol. 8.10 Dla kl. VIII Hist. 9.00 Dla kl. IV Urok Mazowsza. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 13.25 TTR. Mat. 14.00 Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Studio Mł. 17.25 Interstudio. 17.55 Sonda. 18.20 Śródziemnomorskie przygody — ser. przyr. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Miś Uszatek. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Czerwone i czarne — odc. IV ser. 21.25 Proscenium. 22.10 Dziennik. 22.25 W obiektywie dokumentalisty.

**Środa 28 III** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla kl. VII Chem. 11.05 Dla kl. VIII Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. muz. 12.45 TTR. Chem. 13.25 Wskaz. met. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Skakanka. 17.15 Los. Małego Lot. 17.25 10 Minut — teletur. 17.35 Raport w sprawie sierot. 18.05 Skarbiec. 18.35 Między nami jaskiniowcami — film anim. 19.00 Cypisek, syn rozbójnika Rumcajsa. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Kino Interesujących Filmów: Niedokończone zdanie — węg. dramat społ. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 29 III** — 6.00 TTR. Chem. 6.30 Wskaz. met. 9.00 Dla kl. V. Hist. 10.00 Dla kl. II lic. J. pol. 11.05 Dla kl. VII—VIII J. pol. 12.55 Dla kl. III—IV lic. J. pol. 13.25 TTR. J. pol. 14.00 Hist. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Co dalej maturzysto? 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Czwartek TDC. 18.20 Abyśmy byli zdrowi — rep. wojsk. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Odwiedziny książkowego Piotrusia. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji. E. Mason, T. Willia „Dni zemsty" — cz. II. 21.20 Pegaz. 22.05 Dziennik. 22.20 Sport.

**Piątek 30 III** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Hist. 9.00 Dla kl. III Wisło, Wisło, polska rzeko. 11.05 Dla kl. VII Wych. ob. 12.45 TTR. Mat. 13.25 Biol. 15.15 Red. szk. zap. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT — nauki polit. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Piątek z Pankracym. 17.15 Klinika zdrowego człowieka. 18.00 Magazyn motor. 18.30 Profesor i panna — ser. jug. 19.00 Osiołek poznaje świat. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Zasłużony wypoczynek — kanad. dramat obycz. 21.15 NIGDY WIĘCEJ. 21.35 Dziennik. 21.50 Planeta Ziemia: Piąty Ocean — pr. oświat.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 23 III** — 7.35 Film fab. 8.55 Koncert chóralny. 18.05 Film ser. 19.35 Z piosenką przez życie.

**Sobota 24 III** — 7.35 Koncert chóralny. 11.30 Film fab. 13.30 W świecie zwierząt. 14.30 Film anim. 15.30 P. nożna. Dynamo (Tbilisi) — Łokomotiw. 17.25 Film fab. 19.35 Koncert. 20.45 Zawody pływackie.

**Niedziela 25 III** — 7.05 Koncert. 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 14.30 Klub film. 15.30 Filmy anim. 16.00 Panorama międzynar. 16.45 Sport. 17.30 Koncert estrad.

# ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF)

# KINO

**Białowieża** Dom pod czerwoną latarnią — węg. 27—28 III. Mandingo — wł.-USA 29—30 III. Strachy — pol. 31 III—1 IV.

**Bielsk Podl.** Nie taki zły — fr. 26. New York — USA 27—28 III. Ostatni wiosenny śnieg — wł. 29—30 III. Sędzia Fayard zwany szeryfem — fr. 31 III—1 IV.

**Czeremcha** No i co doktorku — USA 27—28 III. Czym mogę służyć — czes. 31 III—1 IV.

**Czyże** Szary okrutnik — radz. Liberia moja miłość — wł. 28 III—1 IV.

**Gródek** Pocztówka z polnymi kwiatami — rum. 31 III—1 IV.

**Hajnówka** Jutro się policzymy kochanie — czes. 26—27 III. Goń mnie aż cię złapię — fr. 28—30 III. Akwarele — pol. 31 III—1 IV.

**Michałowo** Wyspa skazańców — meks. 27—28 III. Miłość Adeli H. — fr. 29—30 III. Zaloty pięknego Dragona — czes. 31 III—1 IV.

**Mielnik** Byliśmy tacy zakochani — wł. 28 III. Zabity na śmierć — USA 31 III—1 IV.

**Milejczyce** Akwarele — pol. Step — radz. 28 III—1 IV.

**Narew** Wesela nie będzie — pol. Miłosne życie Budimira Trajkovicia — jug. 28 III—1 IV.

**Narewka** Niedokończony utwór na pianolę — radz. Romans Teresy Hennert — pol. 28 III—1 IV.

**Nurzec** Kajtek i nowy braciszek — węg. 27—28 III. Maratończyk — USA 29—30 III. Próba ognia i wody — pol. 31 III—1 IV.

**Orla** Azyl — pol. Wielka podróż Agaty Schwoigornt — NRD 28 III—1 IV.

**Rajsk** Córka króla wszechmórz — czes. Rok święty — fr. 28 III—1 IV.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-82-41**

* * *

**Wydawca:**
**RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.**
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 26 zł. 00 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1581-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 552. Nakład 8200 egz. S-2



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## Цікавая сустрэча

Быў зімовы дзень, было холадна і было многа-многа снегу. У мяне страшэнна разбаleліся зубы. І хаця гэта само па сабе, канешне, і не нова, што чалавеку ад часу да часу баляць зубы, але мне гэта сапсавала настрой. Тым болей, што з такім болем (я ў гэтым быў перакананы) дома не ўсяджу; трэба будзе шукаць ратунку ў славутай нашай медыцыны, а дакладней, у зубадзёраў. А я па натуры такі чалавек, што зубадзёраў, паліпадзёраў, міндаледзёраў і ўсялякіх іншых дзёраў недалюбліваю. Не то, каб зусім не любіў, бо напрыклад, раздушыць (што са мной не раз ужо бывала) з імі адну-другую пляшку, то нават люблю. Але сустрэцца сам-на-сам у іх кабінеце, калі на плячах у іх халат, на носе люстэрка, у руках шпрыц або скальпель, то няхай мяне гасподзь сцеражэ — гэта не на маё здароўе. А вось тут давялося. Я, змучаны, падпухлы, злосны, трапляю ў прыёмную амбулаторыю, а там ужо процьма такіх крывых і злосных, як я. І, каб вырваць гэты тройчыпраклятушчы зуб, патраціў гадзіны тры ў такой нямілай кампаніі. Стала быць, можаце сабе ўявіць, у якім настроі плёўся я дамоў. Праз вуліцы можна прайсці было толькі вузенькімі калідорамі, зробленымі ў снезе, так што чалавеку з чалавекам размінуцца было цяжка. Да маёй хаты ад самай вуліцы вялі два такія калідоры, якія глыбей на панадворку сходзіліся ў адзін. І вось, дайшоўшы да бліжэйшага, я ўбачыў у ім ужо немаладога чалавека, можна сказаць, дзеда. Ён заняў сабой увесь праход і неспакойна тупаў на месцы. Кажушок яго і шапка-вушанка былі расхрыстаны. Па ўсім было відаць, што дзеду ў гэты марозны дзень цёпла і весела, бо грэлі і весялілі дзеда не кажушок, валёнкі і вушанка, а гарэлка, якой (гэта выразна было відаць) дзядуля сербануў нямала. Мне ён адразу не спадабаўся. Бывае ж часамі такое, што чалавек з першага погляду можа нам спадабацца або не. Але не верце першаму ўражанню. Не спадабалася мне тое, што ён стаіць якраз на маёй дарозе, і тое, што яму цёпла, калі мяне знабіць, і тое, што яму так весела, калі ў мяне гнусна на душы, і тое, што пасмеў напіцца, калі ў другога чалавека бяда, дый вогуле таму, што тады я быў злосны на ўсіх і ўсё і, здаецца, кусаў бы ўсіх, каб меў толькі не хворыя зубы. Мінуць яго не было як, а, зрэшты, я і не хацеў рабіць такой спробы. На гэты дзень мне ўжо і так хапала ўражанняў. Таму я рашыў надрабіць крокаў сто лішніх, але (як мне тады здавалася) больш пэўных. І я патупаў да далейшага праходу. Іду сабе я памалу, апусціўшы галаву, ужо даходжу да месца, дзе сыходзяцца абодва калідоры, і раптам зноў натыкаюся на дзеда. Аказваецца, ён, патаптаўшыся каля вуліцы, падаўся на сярэдзіну панадворка, каб ізноў шчыльна забарыкадаваць сабой мне дарогу ўжо ў адным праходзе.

— Дык што ж гэта за чартоўшчына? — злосна падумаў я. — Ці так ужо і не буду мець сёння спакою? Найвыразней дзед проста шукае зачэпкі са мной. Калі так, то зараз будзе мець яе.

Але яшчэ астаткам сіл трымаюся і даволі лагодна, хоць і з дозай іроніі, звяртаюся да дзеда:

— Што згубіў тут, дзед?

Дзед падазрона глянуў на мяне і з нейкай дабратой і бездапаможна адказаў:

— Шукаю ад рання Піліпа Саскага.
— Гэта я Піліп Саскі.

Дзед іранічна глянуў на мяне і кісла ўсміхнуўся, а потым як не трэсне сп'яну мяне па плячы.

— Ну што ты, гэта не ты, ці ж я не ведаю Піліпа!

Крыху апаўшая ва мне злосць пачала зноў нарастаць. Бо і самі падумайце, мала што невядома адкуль узяўшыся дзед забірае мой каштоўны час, але і абражае яшчэ мяне на маім уласным панадворку, даказваючы, што гэта не я. Якім правам! І я бесцырымонна перарываю яго недарэчлівыя разважанні наконт маёй асобы пытаннем, якое стаўлю рабром:

(Працяг на стар. 5)


Спяваюць „Цаглінкі".

## Далі ім імя „Цаглінкі"

На ляўкоўскай керамічнай фабрыцы хор заснаваўся два гады таму назад. Вядзе яго таленавіты дырыжор Аляксандр Лукашук. Калектыў прымаў удзел у розных культурных мерапрыемствах Беларускага таварыства, перш за ўсё на яго фэстынах, выступаў у Аўгустове, у Доме прафсаюзаў у Беластоку і на антэне польскага радыё..., цешачы слухачоў цудоўнымі беларускімі песнямі. У яго рэпертуары ёсць таксама польскія, рускія і ўкраінскія песні. Выконваюцца яны і задушэўна, і звонка, і мілагучна.

24 лютага бягучага года ў новым рэстаране ў Нараўцы адбылася прыемная ўрачыстасць. Сабраліся рабочыя керамічнай фабрыкі з сем'ямі, трыццаціасабовы песенны калектыў, мясцовыя ўлады: першы сакратар гміннага камітэта ПАРП Юры Бароўскі і начальнік гміны Юзэф Навіцкі, старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік і іншыя запрошаныя госці.

Найперш выступае з кароткай прамовай першы сакратар ГК ПАРП. Затым начальнік гміны. Пануе настрой святочнасці і прызнятасці. Начальнік уручае кумам: Галене Мялешка (галоўны бухгалтар ГП БГКТ) і Аляксандру Бандаруку (дырэктар ляўкоўскай фабрыкі) акт надання імя калектыву. Ад гэтага моманту хор мае сваё імя — „Цаглінкі". Залу ўскалыхнулі бурныя апладысменты. І пасля пасыпаліся пажаданні. І вось пачуліся пералівістыя гукі гармоніка. Гэта Аляксандр Лукашук падае мелодыю песні. І паплылі песні членаў калектыву. Адна за другою. Песні выконваюцца на высокім мастацкім узроўні, усе яны падкупляюць слухачоў прыгажосцю мелодыі і зместу. Галасы зліваюцца з музыкай акампаніятара і рассыпаюцца па зале. Прысутныя доўга захапляліся песнямі хору. Выступалі дуэты, секстэты. Хор спяваў на два і тры галасы.

На заканчэнне пачастунак. На ганаровым месцы кумы. Тосты, песні, жарты —як на хрысцінах. Панавала атмасфера цеплыні і гасціннасці. Усе весела гулялі пад гукі маладзёжнага аркестра з Гайнаўкі.

Мы развіталіся каля поўначы і пажадалі ляўкоўскім „Цаглінкам" далейшага плённага росквіту і вялікіх поспехаў на культурнай ніве.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**


*Кумы „Цаглінак" усхваляваны сардэчным прыёмам.*

## З песняй у сэрцы

Жанчыны з Райска адчувалі душэўную патрэбу спеву, выступленняў. І, як сцвярджае дырэктар мясцовай школы Валянціна Мамотка, мелі яны добрыя галасы. Аб'яднаныя ў вясковым гуртку жанчын, збіраліся яны разам, размаўлялі аб сваіх вясковых справах і вельмі многа аб тым, што неабходны ў Райску вясковы дом культуры. Пачалі намагацца, каб атрымаць у Беластоку будынак у добрым стане, прызначаны на знясенне. Разам з мужчынамі прыступілі да разбору будынка. Многа было працы і падчас яго перавозу ў Райск, а найбольш падчас будовы. Да грамадскай працы вясковы актыў мабілізаваў усіх — маладых і старэйшых, мужчын і жанчын. Зразумела, не ўсе роўна працавалі, адны больш, другія менш. Але будынак быў пастаўлены. Вялікую дапамогу пры яго заканчэнні аказала гміннае ўпраўленне ў Бельску.

У Райску даспявала думка аб стварэнні харавога калектыву. А ўсё пачалося ад таго дня, калі ў снежаньскі вечар 1977 года прыехалі ў Райск старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, сакратар бюро гміннага ўпраўлення Міхась Чаламей і дырэктар раённага дома культуры ў Бельску Сяргей Лукашук. Пагаварылі яны з жанчынамі, абмеркавалі арганізацыйныя справы, зрабілі спісак жадаючых уступіць у харавы калектыў. А пасля жанчыны заспявалі некалькі песень і сярод іх сваю вясковую, блізкую ім, аб трагедыі іх вёскі — „Гарыць, гарыць сяло раднoе". Песня гэта заўсёды выціскае слёзы ў жыхароў вёскі, асабліва ў жанчын, сведкаў трагедыі. Да сённяшняга амаль у кожнай хаце жыве сваё несуцешнае гора: у адных загінуў брат, у другіх — бацька, у трэціх — сын. Здарылася гэта 16 чэрвеня 1942 года, калі нямецкія варвары расстралялі 149 чалавек, і ў тым ліку нават падлеткаў. Усе будынкі ў вёсцы ўключна з царквой спалілі, зааралі вуліцу, а астатніх райчанаў выгналі з гэтай мясцовасці.

І вось з гэтага вечара пачаўся летапіс харавой групы. Хутка распачаліся спеўкі пад кіраўніцтвам вядомага музыканта з Бельска Пятра Нявінскага.

А ўжо 28 мая 1978 года райская харавая група мае свой дэбют у Літвінавічах, падчас народнага фэстына, прысвечанага 60 гадавіне Савецкай Беларусі, які быў арганізаваны Галоўным праўленнем БГКТ і Нурэцкай гмінай. Праз тыдзень часу, 4 чэрвеня такі ж фэстын адбыўся ў Мокрым, у Бельскай гміне, а 2 ліпеня — у Рыбаках, што ў Міхалоўскай гміне. Хутка ўзраcтаў мастацкі ўзровень харавой групы і хутка разыходзілася слава аб райскіх спеваках. Пасля запрасілі іх на выступленне бельскія ўлады. Далі канцэрт на „Дзень спулдзельца" і на ліпеньскай акадэміі. А ўвосені мінулага года ў Райску адбылася ваяводская ўрачыстасць, прысвечаная адкрыццю новага культурна-асветнага года. І так, 1978 год для харавой групы быў вельмі творчы. Усе члены яе, нягледзячы на неспрыяльныя і клапатлівыя хатнія ўмовы, намагаліся з імі справіцца коштам недаспанай ночы, коштам выручкі ў гаспадарскіх і сямейных абавязках сваімі мужамі. Варта назваць тут усіх удзельнікаў хору, пачынальнікаў культурнай дзейнасці. А вось яны: Антаніна Дамброўская, Марыя Іванюк, Зофія Нікалаюк, Яўгенія Семянюк, Вера Федарук, Зіна Федарук, Марыя Федарук, Яўгенія Чэрняк, Юлія Шчарбінская, Яўгенія Шумская і Яўгенія Шы-

(Працяг на стар. 5)

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

## Першы дзень вяселля

Глянем на гэта з боку маладой, якая выходзіць замуж. У гэтым выпадку першы дзень вяселля адбываўся ў яе хаце. Са шлюбу вярталіся са спевамі і музыкай. Першай фурай ехалі маладажоны, за імі — іхнія госці. Уязджалі на панадворак. На парозе стаялі бацькі дзяўчыны, вітаючы маладую пару традыцыйным хлебам і соллю, і ўводзілі ў хату. У некаторых ваколіцах, напрыклад, у Чыжах, пакуль госці злазілі з вазоў, прыбіраліся, маладую пару замыкалі ў каморы. Замыкалі ненадоўга. У хаце ўсё ўжо было падрыхтавана, накрытыя сталы. Пры ўваходзе размясціўся аркестр, ігралі. Сваты размешчвалі коней. Памалу збіраліся. Першымі за сталы ўваходзілі маладыя. Іх месца было ў кутку пад абразамі. Уваходзілі так, каб маладая была з правага боку маладога. З левага боку маладога сядала яго старшая сванька, а за ёй старшы сват маладой. Каля маладой было месца старшаму свату маладога і старшай дружцы маладой. Лава, дзе сядалі маладыя, мусіць быць абавязкова засланай, нельга сядаць на голую. У некаторых мясцовасцях маладая пара, зайшоўшы за стол, павінна была стаяць датуль, пакуль не сядуць усе госці. Сесці раней гасцей — азначала хуткі развод.

Пачаткова гасцяванне праходзіла спакойна. Прагаладаўшыеся госці пілі, елі. Пад вокнамі стаялі цікаўныя, якія прыйшлі на так званую „стуойку". Ёсць мясцовасці, дзе „стуойка" адбывалася ў хаце. Так было, напрыклад, у Клейніках. Уваходзілі проста без ніякага запрашэння ў хату, станавіліся між сталамі, за якімі сядзелі госці, і глядзелі. Часта стаялі на дарозе, кудою даносілі да сталоў. Гэта няраз і перашкаджала, але такая традыцыя і ніхто за гэта не крыўдзіўся. Сумесная прысутнасць гасцей і прыйшоўшых на „стуойку" нарадзіла акрэслены тып песеннага жартоўнага фальклору. Завязвалася песенная пераклічка. Прыйшоўшыя паглядзець пачыналі:

*„Вышла з-за ліеса хмара,*
*Вышла з-за ліеса хмара.*
*Сіела за столом пара.*
*Обое молодые,*
*Обое хорошые,*
*Обое хорошые.*

А госці, пераважна дзяўчаты, адспеўвалі:

*Што вам за тое даті,*
*Што вам за тое даті,*
*Што вміеетэ співаті?*
*Чы коня вороного,*
*Чы свата молодого,*
*Чы свата молодого?*

„Стуойка" ў сваю чаргу зноў адспеўвае:

*Мы коня запражэмо,*
*Мы коня запражэмо*
*І свата одвэзэмо,*
*І свата одвэзэмо.*

Некалі, як усё падавалі ў адной місцы непарэзаным, сват, якога інакш называлі маршалкам, меў гонар наразаць. А дружкі і сванькі ўраз падхаплялі:

*Сват коровай рыэжэ,*
*А в його з носа ліезэ.*

Маршалак увогуле быў постаццю гумарыстычнай. Найлепш паказваюць на гэта словы наступнай песні:

*Наш маршалок нэ вдався,*
*Сіем ліет нэ вмывався,*
*А восьмого року*
*Пушов до рынштоку,*
*В рынштоці умывсе,*
*Чэрэнком пудголівсе*
*І за маршалка впросівсе.*

Маршалак у сваю чаргу бараніўся і звяртаўся да свата:

*Возьмі, сватэ, помэло,*
*Выжэнь сванькі за сёло,*
*Прывэжы іх до плоту,*
*Нэхай побрэшут в охвоту.*

Увесь абед працягваўся ў падобным настроі. Доўга ішла песенная пераклічка паміж сватамі і дружкамі, „стуой-

(Працяг на стар. 5)



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



## КОЦІКІ

На чарговым прыпынку ў аўтобус зайшла дзяўчына. У руках яна трымала галінкі, якія былі ўсыпаны шэранькімі пушыстымі камячкамі. Адразу ўся ўвага пасажыраў была аддадзена гэтым прадвеснікам вясны.

— Коцікі! — сказаў нехта ласкава. І на тварах многіх з'явілася добрая ўсмешка. — Дзе вы бралі такія?..

— Падарунак, — таксама ветліва адказала дзяўчына.

Яшчэ цяплейшымі сталі сонечныя зайчыкі, якія ўтваралі вясновыя лужыны і шкельцы машыны.

— У каго там коцікі? — глянуў у салон вадзіцель. — А-а... вясна!

Здаецца, кожны з пасажыраў у гэты момант уявіў, як дзесьці ля ракі золкі вецер перастуквае галінкамі вербалозу. А коцікі ўсё роўна цягнуць свае шапачкі ўверх. Там сонейка. Промнямі сваімі яно распраўляецца з пякучым снегам. У такім разе гавораць і пра ваду, што халодная яна, як той лёд. Вада аблізвае галінкі-пруцікі: ўсё вышэй і вышэй, падбіраючыся да коцікаў. Але хутка ледаход скончыцца і вада стане палонніцай берагоў. Толькі цяпер вось вельмі цяжка дабірацца да гэтых пушынак, у народзе пяшчотна названых коцікамі...

Выходзячы з аўтобуса, дзяўчына прымацавала ля пярэдніх дзвярэй адну галінку.

— Гэта ўсім вам, — кінула яна на развітанне.

І коцікі паехалі з намі. Ехала з намі сама вясна.

**В. Найдзін**



*Змена сезонаў.*

## ГУМАР З БАРАДОЮ

Аднаму мужыку трэба было ў горадзе купіць дзёгцю. І не трапіў ён куды трэба ды зайшоў у такую краму, дзе ўсялякія хвігі-мігі прадаюць.

Увайшоў, мазніцу паставіў каля ног ды й глядзіць.

А ў краме толькі адзін крамар, і пытаецца ён мужыка:

— А чаго табе?

— Гляджу, — кажа мужык, — што тут прадаецца...

— А табе ж чаго?

— Ды мне дзёгцю!

— Ды не дзёгаць жа, а дурні, дурні тут прадаюцца!

Пагледзеў мужык на яго ды й кажа:

— Вось жа, як гэтых дурняў здорава купляюць — толькі адзін усяго і застаўся!..



**Задрыпакадэмікі спрачаліся так голасна, што спудзілі ісціну.**

# НІЎКА



## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

*Каму прысвячаецца — той здагадаецца*

## ПАЦЕХА

*— Вось пацеха, дык пацеха... —*
*Бацька неяк мне сказаў.*
*— Да Тацціяны муж прыехаў,*
*Той, што некуды ўцякаў.*
*Ён прыехаў у суботу,*
*Увайшоў у дом, як ліс.*
*Ля парога скінуў боты,*
*Вочы апусціў уніз.*
*А насустрач яму — жонка:*
*— Што?! Прыплёўся, галубок... —*
*Закрычала надта звонка —*
*Чапялой таўхель у бок.*
*Мужычок той быў пад хмелем,*
*Трохі выпіў у чайной.*
*З кумам разам пасядзелі,*
*Прапусцілі па адной.*
*Так і тут. Упаў з размаху*
*І здалёк пачаў:*
*— Жа-а-на...*
*Ну прабач мне.*
*Дай я маху... —*
*Ды не слухае яна.*
*Пацягнула, небараку,*
*Рагачом па галаве.*
*Ледзь-ледзь выпаўз з хаты ракам*
*Босы і пабіты ўвесь...*
*Вёска доўга рагатала*
*І рагоча праз гады.*
*Мужыка таго не стала —*
*Збег ад сораму кудысь.*

**Ірына Навуменка**

### СЯМЕЙНАЕ ЖЫЦЦЁ

— Тое, што касір украў грошы і ўцёк, я разумею. Але навошта ён узяў з сабою і жонку дырэктара?

— Як жа! Каб дырэктар яго не шукаў.

### ЗАДРЫПКОЎСКІ

У магазін „Прырода" зайшоў Задрыпкоўскі і просіць прадаць папугая, які ўмее размаўляць.

— На жаль, у нас зараз няма гэтых птушак, — адказвае прадавец, — але я магу прапанаваць вам дзятла.

— А ён умее размаўляць?

— Як хто зразумее, — задуменна адказвае прадавец. — Ва ўсякім выпадку ў азбуцы Морзэ ён добра арыентуецца.



*Made in Zadrypanka*

### АДВАЖНЫ

— Я б табе сказаў пару слоў, ды людзей тут шмат.

— Добра, пайшлі за вугал. Пайшлі.

— Ну? Я слухаю.

— Нічога табе не буду гаварыць, бо тут сведкаў няма.

### АЙ, КАСТУСЬ!

— Больш піць не буду! — заявіў Кастусь.

— Малайчына!

— І мeнш таксама!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Адзін жыхар Осла, вельмі важны пан, чуў, што бергенскія хлапчукі не лезуць па слова ў кішэнь, і, упершыню прыехаўшы ў Берген, вырашыў праверыць гэта. Ён падышоў да хлопчыка, які гандляваў газетамі ля вакзала, і спытаў:

— Паслухай, а за заўтрашні дзень у цябе газет няма?

— Вядома, не. Я іх яшчэ ўчора прадаў.

*

Два аўтамабілі сутыкнуліся на перакрыжаванні. Палісмен звяртаецца да пажылой дамы:

— Вы не згодзіцеся быць сведкам?

— З вялікім задавальненнем. А што здарылася?

*

Гід: — У гэтай урне захоўваецца попел фараона.

Турыст: — Вось не думаў, што фараон быў такім заядлым курцом!



*І так бывае.*

### ДАМОВІЛІСЯ

Дзве сяброўкі дамаўляюцца аб наступнай сустрэчы.

— Сустрэнемся заўтра?

— Так.

— Дзе?

— Дзе хочаш.

— А якой гадзіне?

— Усё роўна а якой.

— Добра. Толькі я цябе вельмі прашу: будзь пунктуальнай.

### З „Веснікa Задрыпоніі" АБ'ЯВА

Мяняю неапублікаваную паэму на апублікаваны верш.

С. Салавейчык

### З ХАРАКТАРЫСТЫКІ

Аблічыў чорта пры продажы яму душы.



*З жыцця узломшчыкаў.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Валянціны Дзем'янюк, Зінаіды Парфенюк, Марыі Абрамюк, Софіі Іванюк, Людмілы Сцепанюк, Янкі Парфенюка з Трашчотак, а таксама хлопцаў з Парцава змяшчаем песню*

## CYGANKA

**Muzyka: Henryk Blum**
**Słowa polskie: Agnieszka Osiecka**

Odejdę, odfrunę, walizki spakuję i już!
Tam ta ta ram itd.
Oto ja, cała ja!
Nie kupuj mi nic
nowego, drogiego, ważnego,
bo przecież ty wiesz —
tam ta ta ram itd.
potrwa to (dzień lub dwa)
dzień lub dwa
dzień lub dwa

Refren:
Nie dziw, że o mnie w miasteczku
złotych plotek jest moc,
co mi tam —
Oczy mam czarne i włosy mam czarne jak noc,
Co mi tam!
Cyganka, Cyganka, tak mówią już o mnie na mieście

Tam ta ta ram itd.
A ja nie wiem już,
jak to tam ze mną jest
Z Cyganką, z Cyganką — panowie wy ślubu nie bierzcie!
tam ta ta ram itd.
na cóż wam taki gest, taki gest, taki gest...

Tak chciałabym dziś
zatęsknić, pokochać, polubić
na wieki, na mur!
Tam ta ta ram itd.
Oto ja, cała ja!
tak chciałabym dziś zaśpiewać, zapłakać
zanucić nie w moll
tylko w dur...
tam ta ta ram itd.
A już po czterech dniach
wzywa mnie wielki świat!

Refren:
Nie dziw, że o mnie w miasteczku...



## Курёзы

### НЕ ХАЧУ РАСЦІ

Звычайна ўсе дзеці мараць як мага хутчэй стаць дарослымі. Але бываюць сітуацыі, калі дзіцё пагарджае гэтым імкненнем. Пра адзін такі выпадак расказвае фільм „Бліскучы барабанчык", які зараз здымаецца французскімі і заходнегерманскімі кінематографамі ў Гданьску. Фільм прысвечаны лёсу хлопчыка Аскара Мацэраха, які, трапіўшы з трохгадовага ўзросту ў кампанію дарослых людзей і ўбачыўшы іх нягчырыя адносіны, не пажадаў стаць калі-небудзь такім жа і перастаў расці.

Тое, што ідэя фільма мае рацыю, пацвердзілася ў працэсе вытворчасці самога фільма. Справа ў тым, што на ролю галоўнага героя ўзялі сына прафесійных артыстаў Беннет дванаццацігадовага Давіда, які з маленства захварэў на парушэнне дзейнасці залоз, выпрацоўваючых гармоны росту. Ён выглядае значна менш свайго ўзросту. Даўшы згоду на гэтую ролю, Давід яшчэ, як і ўсе дзеці, цешыў сябе надзеяй зарабіць вялікія грошы, каб паехаць у ЗША да праслаўленых дактароў-спецыялістаў па органах унутранай секрэцыі. Аднак у працэсе работы над роллю, жывучы ў асяроддзі дарослых акцёраў і многа раздумваючы над лёсам і жыццёвымі назіраннямі свайго героя, Давід убачыў многа слушнага ў яго ўражаннях і разважаннях. Да таго ж Давіду кінакампанія заплаціла ганарар такога памеру, якога ён нават не чакаў, і ўжо зноў прапануе яму іншыя дзіцячыя ролі. І хлопчык прыйшоў да заключэння, што расці яму наогул не варта.




**Больш за ўсё мы пагарджаем тымі недахопамі, якіх не маем самі.**